№ 91 (3832)

19 лістапада 2013 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

www.nv-online.info

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб КОЛАС**





НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА



*Борис ЖЕЛИБА, профессор, доктор экономических наук*

## У кризисного порога

Не хотелось бы нагнетать обстановку, но ситуация в экономике Беларуси такова, что можно утверждать: мы идем след в след по дорожке к еще не забытому валютно-экономическому кризису, разразившемуся в стране в 2011 году, в результате которого рубль девальвировался в 3 раза, цены выросли более чем в 2 раза. Вот некоторые сегодняшние экономические показатели.

Золотовалютные резервы государства иссякают не первый месяц. За октябрь они вновь сократились. При этом сократились рекордно — на 574,6 млн долларов и на 1 ноября составили 6813,1 млн долларов, что покрывает размер нашего импорта на протяжении 1,6 месяца вместо минимальных двух месяцев. С начала года снижение резервов составило 1281,9 млн (весной 2011 года золотовалютные резервы находились в районе 4 млрд долларов). Валюта ушла на погашение внешних долгов и на поддержание курса белорусского рубля. ***Поступления валюты в страну недостаточны. Наши два главных валютных цеха — нефтепереработка и производство калийных удобрений — работают в лучшем случае вполсилы.*** Поставки нефти урезаны Россией, продолжает о себе давать знать "калийная война" с "Уралкалием".

С 1 октября с 9080 до 9280 рублей (на 15.11.2013 г.), или на 2,2%, вырос курс доллара. С начала года рубль девальвировался на 8,3%. Это первые показатели в СНГ. Население Беларуси шестой месяц подряд покупает валюты больше, чем продает. В октябре чистая покупка наличной валюты составила 255,3 млн долларов (в сентябре — 218,4 млн). То же происходит и по безналичной валюте. За 10 месяцев чистый спрос по наличной валюте сложился 887,1 млн долларов, по безналичной — 780,5 миллиона. По данным Нацбанка, рублевые депозиты снизились в октябре на 1,4 трлн рублей, или на 4%, и на 1 ноября составили 32,3 триллиона. Валютные же вклады увеличились в этом месяце на 139,1 млн долларов, или на 2%, и составили 7,2 млрд долларов, или 66,8 трлн рублей в эквиваленте. ***Население все более активно выражает недоверие к рублю. Чтобы удержать рублевые ресурсы, банки в который раз повышают депозитные ставки на рублевые вклады.*** Они доходят до 50% годовых ("Беларусбанк", "Альфа-банк", "Паритетбанк"). Из-за высоких депозитных процентов банки довели кредитные проценты до умопомрачительных высот (70—80% и более), что ставит под вопрос дальнейшее существование предприятий. Ставка рефинансирования Нацбанка, которая меняется с середины июня, теперь практически не играет никакой роли.

По данным Министерства финансов, в текущем году каждое пятое из 50 крупнейших ОАО Беларуси — убыточное. В 2012 году убытки имели только 2 ОАО. По итогам первых трех кварталов, как констатирует Министерство экономики, в реальном выражении заработная плата выросла на 18,7% (прогноз на 2013 год — 7,1%), что на 16,4% опережает рост производительности труда. Отмеченный макроэкономический дисбаланс приобрел устойчиво хронический характер.

По сути, валютная и финансовая ситуация в стране выходит из-под контроля экономических властей. Аналитики ведут споры, когда и на сколько необходимо провести официальную девальвацию белорусского рубля, единодушно считая, что рубль переоценен, чтобы эту ситуацию хоть частично облегчить. Минфин видит, что запланированных объемов валюты от продажи внутри страны государственных валютных облигаций до конца года (500 млн долларов) он не получит, придет ли последний транш кредита Антикризисного фонда в 440 млн долларов в декабре — также не известно. Все больше напрягает бюджет. Напрягает настолько, что власти видят только один способ пополнения его дохода — карманы населения. А что делать? Калийный рынок стагнирует и будет таковым до весны, сколько даст нефти Россия в следующем году — не известно. После попытки ввести выездную стодолларовую пошлину властями продолжается изобретение экзотических поборов, чтобы изъять "излишки денег" у населения, не забывая при этом, что недалек тот час, когда оно станет электоратом. Главное — ободрать в первую очередь относительно обеспеченных соотечественников и тех, кто имеет вредные привычки. Чтобы не было массовых протестов.

Предложение Мясниковича о необходимости ввести ***налог на "неработающих***", направленное не столько против тунеядцев, сколько против миллиона выезжающих работать за границу, похоже, обретает юридическую силу. По нему безработные должны раскошелиться примерно на 280 долларов в год. А то, что трудовые мигранты переводят не меньше миллиарда долларов своим семьям в Беларусь, не в счет. Как и то, что люди начнут уезжать в ту же Россию целыми семьями. Не исключая высококвалифицированных специалистов и рабочих.

Следующими под раздачу попались ***владельцы автомобилей***. Им придется заплатить госпошлину за "выдачу разрешения на допуск транспортного средства к участию в дорожном движении". В зависимости от веса автомобиля, его собственника дань может составить от 14 до 170 долларов в эквиваленте. Воистину полету творческой мысли чиновников нет предела! Так можно ввести налог и на допуск телевизоров и холодильников к электрическим сетям. Скоро будем платить налог за то, что мы белорусы. Не забыты и традиционные подати. На 14% должны повыситься акцизы на моторное топливо, на 27% — на алкоголь, и, конечно, увеличат акцизный налог на табачные и другие подакцизные товары.

В 2014 году Министерство экономики планирует довести уровень возмещения населением затрат на жилищно-коммунальные услуги не то до 50%, не то до 35% при средней зарплате, со слов министра экономики, в 628 долларов (в августе сего года она уже была 621 доллар). На фоне инфляции, которая ожидается к концу года в размере 16—18%, это замораживание зарплаты. Другими словами, будем жить по средствам. Перед тем же Министерством экономики и Госкомитетом по имуществу поставлена традиционно невыполнимая задача получить в следующем году 1,5 млрд долларов от продажи госпредприятий. В очередной раз работа по приватизации в текущем году провалена, о чем и высказался премьер-министр.

Растущие очереди в банковские обменники, ускоряющаяся девальвация рубля, тающие валютные резервы порождают панические настроения среди населения и банковских вкладчиков, создают питательную среду для возникновения разного рода слухов или непроверенной информации. Так, не без стараний государственной прессы циркулирует информация о возможных ограничениях валютного обращения в стране, о возможности возврата валютных вкладов рублями по курсу, а затем проведения разовой официальной девальвации. Нацбанк вынужден выступить с опровержениями этих слухов, назвав их провокационными. В смысле бредовыми и абсурдными. Но как реагировать нашему населению, когда в России эти же вопросы обсуждают на уровне министра финансов? Такими же абсурдными поначалу выглядели и высказывания наших официальных лиц насчет введения налогов на тунеядцев и выездной пошлины. Однако, как показывает жизнь, в Беларуси абсурдное легко становится реальным...

З-ЗА КРАТАЎ



*Алег ВОЛЧАК:*

## «Ёсць рэакцыя на публікацыю ліста Мікалая Аўтуховіча ў «Народнай Волі»

*У калоніі з'явіліся цыбуля і іншая гародніна, а палітзняволенаму далі бялізну.*

Як стала вядома "Народнай Волі", гродзенскія медыкі (сумесная кансультацыя хірурга і артапеда) 27 верасня далі заключэнне па стане здароўя Мікалая Аўтуховіча пасля абследавання апошняга ў калоніі.

Яны канстатавалі, што яму патрабуецца пратэзіраванне зубоў *("адсутнасць рада зубоў, парушэнне жавальных функцый")*, але імплантацыя магчыма толькі пасля абследавання ў ваенным шпіталі.

Тым часам адміністрацыя калоніі пакуль не накіроўвае Мікалая на такое абследаванне, хоць заключэнне медыкаў ёсць у яго асабістай картцы.

*"Зараз мы дамагаемся таго, каб дазволілі перадачу Мікалаю Аўтуховічу міксера,* — распавядае праваабаронца **Алег ВОЛЧАК**. — *З-за адсутнасці зубоў ён не можа жаваць, міксер вельмі дапамог бы яму. Дарэчы, пасля публікацыі ў "Народнай Волі" "Письма из ада" Мікалая ў калоніі з'явіліся цыбуля і іншая гародніна, а палітзняволенаму далі бялізну".*

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ТЫМ ЧАСАМ

## Маці спаткання пакуль не дачакалася



У лістападзе ў Мікалая Аўтуховіча планавалася спатканне са сваякамі, але калі маці палітвязня Лідзія Юльянаўна прыехала ў гродзенскую турму, каб спаткацца з сынам, то даведалася, што спатканне забаранілі.

"*Гэта іх права такое: хочуць — дазваляюць спатканне, хочуць — не дазваляюць,* — сказала ў эфіры Радыё Свабода маці Аўтуховіча. — *Што хочуць, тое і робяць. Не далі — і ўсё. Добра, што хоць перадачу прынялі. 30 кілаграмаў. Прадукты ды рэчы. Усё цяжкае, што ні купі, усё нешта важыць. Шмат не возьмеш. А бачыла я сына ажно ў мінулым годзе і ўжо, відаць, у гэтым годзе не ўбачу, да вызвалення не ўбачу, пэўна. Толькі засталося, што ліставацца. Чакаю яго, канечне. Яго шмат хто чакае, а маці — тым больш".*

Асуджаны на 5 гадоў і 2 месяцы Мікалай Аўтуховіч адбывае пакаранне ў гродзенскай турме, адкуль павінен вызваліцца ў красавіку наступнага года.

Праваабаронцы лічаць Аўтуховіча палітвязнем, якога, на іх погляд, пакаралі за барацьбу з карупцыяй ва ўладзе.

ПАД ГРАДУСАМ

## Зіма не спяшаецца

*На гэтым тыдні зноў будзе цёпла.*

***У аўторак*** — без істотных ападкаў, ноччу і раніцай у асобных раёнах туман. Днём месцамі будзе ўзмацненне ветру да 15—18 м/с. Тэмпература паветра ноччу мінус 3 — плюс 3°С, максімальная днём — ад плюс 2°С па поўначы краіны да плюс 8°С па поўдні.

*"Пачынаючы з серады і да канца тыдня надвор'е пройдзе пад знакам цёплых паветраных мас з акваторыі Чорнага мора",* — распавядае сіноптык **Дзмітрый Рабаў**. — ***У сераду*** *ў многіх раёнах магчымыя невялікія дажджы. Тэмпература ноччу 0°С — плюс 6°С , днём — плюс 5—9°С.*

***У чацвер*** на большай тэрыторыі пройдуць дажджы. Ноччу ад плюс 1°С да плюс 7°С, днём — плюс 4—9°С.

***У пятніцу*** месцамі дажджы, у асобных раёнах туман. Ноччу 0°С — плюс 6°С, пры праясненнях да мінус 2°С. Максімальная тэмпература днём плюс 2—9°С.

"*У выхадныя дні без дажджоў не абыдзецца, яны пройдуць на большай тэрыторыі нашай краіны*", — адзначыў сіноптык. **У суботу** ноччу плюс 1—7°С, пры праясненнях да мінус 2°С, днём ад плюс 4°С па паўночным усходзе краіны да плюс 10°С па паўднёвым захадзе. **У нядзелю** тэмпература паветра на працягу сутак — плюс 2—8°С.

СУДОВЫЯ СПРАВЫ

## Ігар Логвінаў абскардзіць рашэнне Вышэйшага Гаспадарчага суда Беларусі

*Выдавец Ігар Логвінаў не згодны з рашэннем Вышэйшага Гаспадарчага суда Беларусі, які пакінуў у сіле загад аб пазбаўленні яго выдавецкай ліцэнзіі, і мае намер падаць касацыйную скаргу.*

— *Рашэнне відавочна несправядлівае, а мы маем намер дамагацца справядлівасці,* — пракаментаваў Логвінаў рашэнне суда прэс-службе ГА "БАЖ". — *У судзе з боку Міністэрства інфармацыі мы не пачулі адказы на тыя пытанні, якія былі зададзены. Будзем звяртацца з касацыйнай скаргай на гэтае рашэнне.*

Ігар Логвінаў не выключае, што яму давядзецца зарэгістраваць выдавецтва за межамі Беларусі і імпартаваць у краіну беларускую літаратуру.

Нагадаем, што 23 верасня прыватнае выдавецтва "ЛогвінаЎ" атрымала ад Міністэрства інфармацыі афіцыйнае паведамленне пра пазбаўленне ліцэнзіі на права ажыццяўляць выдавецкую дзейнасць. Ліцэнзію адклікалі па рашэнні калегіі міністэрства *"ў сувязі з дапушчанымі грубымі парушэннямі заканадаўства аб ліцэнзаванні".* Гаворка ішла пра выпуск альбома "Прэс-фота Беларусі 2011", які суд Ашмянскага раёна прызнаў экстрэмісцкім 18 красавіка 2013 года. Выдавецтва "Логвінаў" выступала выдаўцом альбома".

З патрабаваннем аднавіць ліцэнзію да Міністэрства інфармацыі Беларусі таксама ўжо звярнуліся сотні пісьменнікаў з усяго свету, журналісцкія і пісьменніцкія арганізацыі і творчыя саюзы. Усе яны звяртаюць увагу на выключнасць выдавецтва, якое падтрымлівала і друкавала творы вельмі шырокага кола аўтараў.

18 лістапада Вышэйшы Гаспадарчы суд Беларусі адхіліў заяву Ігара Логвінава і стаў на бок Міністэрства інфармацыі.

**Барыс ГАРЭЦКІ.**



СКАНДАЛ

## Антикризисные технологии в действии

*За взятку задержан директор Агентства антикризисных технологий и инвестиций. Сотрудники КГБ взяли его с поличным.*

Как сообщает пресс-служба КГБ, "*назначенный Хозяйственным судом Минска антикризисным управляющим в деле о банкротстве ООО "Авеню Снаб" директор вымогал у учредителей данной организации взятку в размере 4000 долларов США за благоприятное решение вопроса о непривлечении указанных лиц к субсидиарной ответственности на сумму свыше 200 миллионов рублей".*

Расследованием займется Следственный комитет.

**Алина ВЕТРОВА.**

ЧУЛІ?

## У Беларусь завітаў «рускі мядзведзь»

*У Брэсцкай вобласці ў мінулым славутага расійскага барца Аляксандра Карэліна суправаджаў бізнесмен і старшыня Беларускай федэрацыі барацьбы Юрый Чыж.*



Паведамляецца, што трохразовы пераможца Алімпійскіх гульняў па класічнай барацьбе, дэпутат Дзярждумы Расіі **Аляксандр Карэлін** наведаў мемарыяльны комплекс "Брэсцкая крэпасць-герой", дзе азнаёміўся з экспанатамі музея цытадэлі.

Карэлін — не толькі трохразовы алімпійскі чэмпіён у вагавай катэгорыі да 130 кг (некаторыя яго называлі "рускім мядзведзем"), але і дзевяціразовы чэмпіён свету, 12-разовы чэмпіён Еўропы.

Трохразовы алімпійскі чэмпіён па вольнай барацьбе **Аляксандр Мядзведзь**, які сябруе з Карэліным, распавёў "Народнай Волі", што, магчыма, славуты барэц прыехаў у Мінск на адкрыццё юбілейнага, 20-га, міжнароднага турніру па барацьбе памяці Алега Караваева.

*"Я з Сашам Карэліным, можа, і сустрэўся б, але мяне паклалі ў лячэбную камісію на планавае абследаванне,* — кажа Аляксандр Васільевіч. — *А ў Брэсцкай вобласці Карэлін і Чыж, калі я нічога не блытаю, збіраліся нейкі помнік адкрываць".*

**Алесь СІВЫ.**

БІЗНЕС

## Замест Керымава ў Мінск прыедзе Прохараў

*Група кампаній "Онэксим" расійскага прадпрымальніка* ***Міхаіла Прохарава*** *дасягнула дамоўленасці з* ***Сулейманом Керымавым*** *і яго партнёрамі, якія валодаюць 21,75% акцый "Уралкалия" аб пакупцы гэтага пакета акцый.*

*Паводле дадзеных агенцтва Bloomberg, "Уралкалий" каштуе прыкладна 20 мільярдаў долараў, а доля структур Suleyman Kerimov Foundation — 5,2 мільярда.*

Генеральны дырэктар "Онэксима" **Дзмітрый Разумаў** сказаў, што набыццё акцый "Уралкалия" — гэта доўгатэрміновыя інвестыцыі, паколькі рынак калійных угнаенняў будзе ў перспектыве развівацца паводле пазітыўнага сцэнарыя.

"*Пасля такога паведамлення можна чакаць хуткага прыезду Міхаіла Прохарава ў Беларусь,* — пракаментаваў навіну ў эфіры Радыё Свабода кіраўнік аналітычнага цэнтра „Стратэгія" **Леанід Заіка**. — *Гэта азначае, што пачынаецца новая партыя. Прохараў прыедзе ў Мінск. І тут ён дасягне пазітыўных пагадненняў аб стварэнні сіндыката альбо кансорцыума. Пачнецца новая стратэгічная гульня з манапольным палажэннем вытворцаў на рынку. Як будзе развівацца маркетынгавая стратэгія — гэта асобнае пытанне. Але апошняя старонка старой гісторыі з Керымавым на гэтым загортваецца".*

Народная Воля
http://www.nv-online.info
19 ЛІСТАПАДА 2013 г.

ДУХОЎНЫ СКАРБ

# Помнікі — сапраўдным нацыянальным героям,

## *месца істуканаў акупацыйнай улады — на сметніках гісторыі*

Сёлетні і наступны гады для Беларусі асаблівыя. 175 год з дня нараджэння Кастуся Каліноўскага. 150-годдзе вызвольнага паўстання (1863—1864) і 150 год з дня пакарання Народнага героя расійскімі царскімі ўладамі ў Вільні.

У той час, калі патрыятычныя сілы Беларусі імкнуцца годна адзначыць вышэйпералічаныя юбілейныя даты, шавіністычныя хаўруснікі, якія гуртуюцца вакол сайта Imperia, паставілі перад сабой мэту не толькі сарваць святкаванне, але і прадоўжыць фальсіфікаваць і перакручваць гістарычныя факты нашага роднага краю, дэзінфармаваць грамадства і ў першую чаргу моладзь, студэнцтва. Некаторыя ж заўзятары антыбеларускай кампаніі выкладаюць у рэгіянальных універсітэтах, працуюць у афіцыйных газетах і часопісе “Беларуская думка”.

Аднак падчас дыскусіі апаненты выглядаюць вельмі слаба і бякла. Па ўсім відаць, што яны — змагары з беларушчынай толькі з-за вугла. Тым не менш факт распальвання антыбеларускай істэрыі гэтай групоўкай у інтэрнэце і часопісе “Беларуская думка” прымушае нас выказацца па набалелых гістарычных пытаннях.

Не паўстанцы і Каліноўскі са зброяй, шыбеніцамі і гвалтам прыйшлі ў Масковію наводзіць свае беларускія парадкі, а наадварот. У нашу краіну не раз урываліся маскоўскія князі, цары і царыцы і разбуралі яе жытло, дамы, замкі, хрысціянскія храмы. Але да XVII стагоддзя Вялікае Княства Літоўскае было вялікай і моцнай дзяржавай і магло пастаяць за сябе, даць адпор любым заваёўнікам. Масква ж вельмі часта ў паходах на Беларусь аб’ядноўвалася з татарскімі ханамі. І тады нашым ваярам было яшчэ цяжэй у войнах. Але нашы прашчуры доўгія стагоддзі былі на пярэднім плане ў адбіванні агрэсіі з Усходу. І выстаялі ажно да 1772—1795 гадоў.

У 1514 годзе шматтысячная маскоўская арда перайшла межы ВКЛ. Былі захоплены Смаленск, Мсціслаў, Крычаў, Дуброўна, Друцк. 80-тысячнае войска стаяла пад Оршай, гатовае захапіць усё Вялікае Княства. Па загадзе вялікага князя маскоўскага войскі Чаляднiна, Булгакава-Голіцы везлі пад Оршу дзясяткі вазоў з вяроўкамі, каб усё беларускае войска звязаць і прыгнаць, як быдла, у Маскву для расправы. Але атрымалася наадварот. Пад зверхніцтвам Вялікага гетмана Канстанціна Астрожскага беларускія рыцары ўшчэнт разбілі няпрошаных гасцей: 40 тысяч забітымі, 5 тысяч палоннымі, астатніх гналі да Смаленска.

У 1563 годзе пачалася новая вайна Масковіі за прыбалтыйскія землі (Лівонію). Цар Іван Жахлівы даў загад сваім ваяводам выпальваць Літву і ісці на Мінск і Навагрудак. 16 гадоў цягнулася акупацыя Полаччыны.

У 1654 годзе новы Маскоўскі цар паслаў на ВКЛ 100-тысячнае войска. Беларусь зноў уся была акупавана. Цар наказваў ваяводам на сваім шляху ўсё паліць і разбураць, а каб болей панішчыць, назад ісці іншымі дарогамі. Тады ваявода Трубяцкой адказваў цару: *“Вокруг Слуцка мы велели все выжечь, а, идучи дорогой до Слонима, села, и деревни, и хлеб, и сено на обе стороны жгли и людей побивали и разоряли совсем без остатку, а в Клецке в городе людей всех побили”.* Маскоўскі цар вазамі пастаўляў у Беларусь запарожскім казакам гарэлку за іх удзел у вайне.

Гэтая вайна доўжылася 13 гадоў. У ёй загінуў кожны другі наш жыхар. У час гэтай вайны 2 лютага 1661 года ў Магілёве было ўзнята мо першае паўстанне супраць захопнікаў, у выніку чаго ўдалося вызваліць горад ад маскавітаў. Кіраўніком паўстання быў Язэп Левановіч.

Падчас гэтай крывавай вайны 300 тысяч беларусаў вывезлі ў Маскву. Частку нашых нявольнікаў прадавалі персам, туркам у вечнае рабства па 3 рублі за душу. Значную колькасць палонных разабралі маскоўскія памешчыкі, а асноўная частка ў цёмнай Маскве адчыняла школы, тэатр, пачалі друкаваць кнігі, стваралі майстэрні, дзе рэзалі з дрэва скульптуру, выпрацоўвалі кафлю, будавалі палацы для цара, адлілі Цар-гармату...

Нехта Шымаў прапануе ў Беларусі паставіць помнік цару-бацюхну. Цікава, якому? Мо таму, які ў Клецку перабіў усіх жыхароў? Ён жа пазнішчаў большасць жыхароў у Полацку, Віцебску, Мсціславе, Магілёве. Ці, можа, Івану Жахліваму, які не толькі перабіў палову жыхароў Полацка, вывез унікальную бібліятэку з Сафіі Полацкай і сваіх жонак жыўцом клаў у труну і тапіў у сажалцы? Ці, можа, Пятру І, які ўласнаручна забіў полацкіх святара і манахаў у Сафіі, загадаў узарваць наш першы храм і знішчыў Полацкі, Віцебскі, Аршанскі і Смалянскі замкі? Альбо таму, хто здушыў свайго бацьку-цара? Ці тым царам, якія загубілі тысячы беларускіх жаўнераў падчас захопніцкіх войнаў Расіі?

Напярэдзе былі паўстанні пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі і Т.Ваўжэцкага ў 1794 годзе (абодва народжаны ў Беларусі). А генерал Я.Ясінскі быў заўзятым патрыётам ВКЛ.

У 1830—1831 гадах наша нацыянальная патрыётка капітан Эмілія Плятар узняла нямала маладых паўстанцаў на чарговую барацьбу з царызмам.

Пасля канчатковага захопу царскай Расіяй усіх літоўскіх (беларускіх) земляў ВКЛ у 1795 годзе маскоўскі ўрад браў з жыхароў Літвы-Беларусі грабежніцкі падатак серабром у чатыры-пяць разоў большы, чым у самой Расіі. Былі ўведзены рэкруцкія наборы, чаго раней наша краіна зусім не ведала. Паўмільёна вольных сялян расійскія ўлады зрабілі прыгоннымі і раздалі памешчыкам. Беларускія гарады пазбавілі самакіравання (Магдэбургскага права).



У сукупнасці ад набору 1782 года (першы набор) і да 1812 года ў маскоўскім войску было звыш 220 тысяч беларусаў-ліцвінаў. Многія з іх загінулі ў паходах Суворава, пад Аўстэрліцам, у Прусіі, на расійска-турэцкіх войнах і ў іншых бітвах. У 1812 годзе з беларускіх земляў у расійскае войска было выстаўлена больш за 130 тысяч жаўнераў.

У час войнаў, а таксама пасля паўстанняў 1830—1831, 1863—1864 гадоў у Маскву, С.-Пецярбург і іншыя гарады Расіі цягнуліся па дарогах ланцугі вазоў з нарабаваным дабром, якое асядала ў сховах генералаў і фельдмаршалаў, але галоўнае — у царскіх палацах. Гэта было дзяржаўнае рабаўніцтва. Так знікалі скарбы з палаца Льва Сапегі, з замкаў Радзівілаў у Міры, Нясвіжы, з замкаў у Вільні, Полацку, Любчы, Горадні, Ляхавічах і іншых замкаў, палацаў, храмаў... Так зніклі дзяржаўныя скарбы: архіў ВКЛ — Літоўская метрыка за амаль увесь час існавання дзяржавы, якая цяпер знаходзіцца ў маскоўскіх і піцерскіх музеях, сотні слуцкіх паясоў, начынне з золата і серабра і іншыя каштоўныя рарытэты, а таксама вялікая колькасць жывапісу, графікі, скульптуры і іншыя скарбы. Такім жа выпрабаваным шляхам, напэўна, знік і Крыж Еўфрасінні Полацкай ужо ў добрых вучняў — савецкіх нашчадкаў цароў-імператараў.

Але царызм учыніў самае страшэннае злачынства супраць нашага этнасу — мільёны жыхароў Беларусі былі выселены ў Сібір, на Далёкі Усход і ў іншыя месцы на пасяленне і катаргу. Многія былі пазбаўлены жыцця. Толькі шчаслівчыкам пашанцавала апынуцца ў эміграцыі ў Парыжы і іншых гарадах Еўропы. **У Беларусі мясцовым жыхарам займаць хоць якія дзяржаўныя пасады было забаронена. Для такой працы ў нашу краіну прывозілі (з мэтай культурнага ўціску і русіфікацыі) прадстаўнікоў цэнтральных карэнных рэгіёнаў Расіі. І Кастусь Каліноўскі не змог у Беларусі ўладкавацца на працу.** Віленскі ўніверсітэт царызм зачыніў у 1832 годзе, на наступны год пасля паўстання, як рассаднік вальнадумства (нацыяналізму, па сённяшняй тэрміналогіі). У 1839 годзе была ліквідавана Уніяцкая царква — носьбіт нацыянальнага духу і культуры.

Такім быў пярэдадзень паўстання 1863—1864 гадоў. У Вялікім Княстве Літоўскім паўстанцы пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага ўзнялі народ супраць бесчалавечнай палітыкі царызму ў нашай краіне, супраць здзекаў на нацыянальнай, палітычнай, культурнай, адукацыйнай, гаспадарчай падставах, супраць гвалту, які чыніў маскоўскі царызм на нашай зямлі.

У паўстанні ўзялі ўдзел лепшыя прадстаўнікі нашага народа ўсіх саслоўяў: магнаты, шляхта, мяшчане, гараджане, сельскія жыхары, сяляне, святары розных канфесій. Не браць удзел у паўстанні было непрыстойна, немагчыма. Людзі змагаліся за сваю краіну, за свой народ.

У шэрагах паўстанцаў змагаліся прадстаўнікі беларускай (літоўскай) інтэлігенцыі: пісьменнікі (у іх ліку Францішак Багушэвіч, Арцём Вярыга-Дарэўскі, Мікалай Караткевіч), мастакі Міхал Андрыёлі, Казімір Альхімовіч, Альфрэд Ромер, Генрых Дмахоўскі (загінуў у баі) і іншыя, а таксама Каміла Марцінкевіч, дзед будучага славутага кампазітара Дзмітрыя Шастаковіча, бацька Надзеі Крупскай Канстанцін, бацька Аляксандра Грына Сцяпан Грынеўскі, браты Кастравіцкія — бацькі Каруся Каганца і Гіёма Апалінэра. Паўстанцам спрыяў Дунін-Марцінкевіч.

**У паўстанчым войску змагаліся цэлыя роды-фаміліі. Гонар ім і слава! Вечнай будзе памяць тых, хто аддаў свае жыцці за волю нашага народа за яго гонар!**

“Імперыялісты” з сайта Imperia і мы таксама моўчкі ходзім каля помнікаў тэрарыстам Леніну, Свярдлову, Калініну, Дзяржынскаму, па вуліцы Валадарскага, Мяснікова і іншых. Вядома ж, нельга рабіць выгляд, што тапаніміку нельга мяняць. Крыважэрцам месца на сметніках гісторыі, а не ў цэнтры гарадоў. Фелікс Дзяржынскі — вынаходнік і заснавальнік канцлагераў у СССР — у практыцы вядомы як жорсткі забойца. Свярдлоў ва ўласным сейфе захоўваў 100 кг нарабаванага ў людзей золата і срэбра. Вуліцы, названыя імем ката і злодзея, ёсць па ўсёй Беларусі. Уладзімір Ленін атрымаў каля ста мільёнаў марак ад нямецкага ўрада для падрыхтоўкі і правядзення рэвалюцыі, разбурыў Расію, давёў яе да краху, галечы і голаду, а ў 1920 годзе на яго загад была разгромлена Беларуская Народная Рэспубліка і яе абаронцы — Слуцкі збройны чын. Калінін, апрача іншага, не быў супраць прапановы Берыі расстраляць у Катыні і іншых месцах польскіх афіцэраў, сярод якіх было шмат і беларусаў. Імёнамі гэтых і іншых тэрарыстаў названы вуліцы, плошчы, усталяваны помнікі, мемарыяльныя шыльды і іншае. Дык гора-гісторыкі не чапаюць гэтай тэмы. Гора-гісторыкі і “палітолагі” (нехта ж іх трымае на працы) з гэтым станам згодны і не выступаюць супраць, а знайшлі сабе занятак гадзіць там, дзе часова прыжыліся. Але нашай гісторыі і нашых герояў ім не ўдалося зганіць.

Адносна польскасці Кастуся Каліноўскага вось такі факт. Вёску Мастаўляны — радзіму Кастуся Каліноўскага — тав.Сталін перадаў Польскай Народнай Рэспубліцы ў 1950 годзе. Так што, відаць, псеўдагісторыкі і палітолагі не толькі не чытаюць важных кніг і дакументаў, але і не цікавяцца аб’ектыўнай гісторыяй Беларусі. Гэта варта было б ведаць і Я.Новіку, які дарэдагаваў “Гісторыю Беларусі” да абсурду, што ўжо жывога матэрыялу і фактаў не засталося.

У кожнага народа ёсць імёны — сінонімы словам ВОЛЯ, БРАТЭРСТВА. У балгараў — гэта Хрысты Боцеў, у венграў — паэт Шандар Пецёфі, у італьянцаў — Джузэпэ Гарыбальдзі, у палякаў — Шыман Канарскі, у расіян — Герцэн, Дабралюбаў, у башкіраў — Салават Юлаеў. У беларусаў такім нацыянальным героем — змагаром за волю роднага народа стаў Кастусь Каліноўскі — правадыр паўстання 1863—1864 гадоў на Беларусі-Літве...

У паўстанцаў быў пароль: “Каго любіш?” — “Люблю Беларусь!” Наш славуты герой на вечным спачыванні пад гарой Гедзіміна ў Вільні. Там яго вечная магіла. Туды заўжды 22 сакавіка ідуць людзі, каб ушанаваць памяць Кастуся Каліноўскага. Гэта сімвалічна.

І так будзе заўсёды. Кастусь Каліноўскі стаў сімвалам ВКЛ-Беларусі. Занадта дарагі гэты сімвал нашай нацыі. З ім звязана станаўленне нашай дзяржавы на новым этапе яе развіцця. З імем Каліноўскага знітавана наша літаратура, мастацтва, палітыка, культура ў цэлым.

У час Другой сусветнай вайны ў Беларусі дзейнічалі партызанскія атрады імя Кастуся Каліноўскага. Беларускімі мастакамі і скульптарамі створана вялікая галерэя вобраза Каліноўскага і гісторыі паўстання. Кампазітар Д.Лукас напісаў оперу “Кастусь Каліноўскі”. Многія нашы паэты, кампазітары стварылі кантаты і хоры на тэму Кастуся Каліноўскага. Самае ўзвышанае і па-мастацку адухоўленае — раман Уладзіміра Караткевіча “Каласы пад сярпом тваім”, драма “Кастусь Каліноўскі”, паэма Аркадзя Куляшова “Хамуціус”... Дык што, гаспада-таварышы? Вы замахнуліся на самае святое, што ў нас ёсць. Стоп! Вам далей дарогі няма! Няхай кіраўнікі ўніверсітэтаў і іншых устаноў разгледзяць пытанне пра адпаведнасць вашага знаходжання на працы.

На жаль, антыбеларускія групоўкі не абмежаваліся паклёпам на Кастуся Каліноўскага. Яны пашыраюць нападкі на вялікіх асоб беларускай гісторыі і культуры. Так, пры абмеркаванні некаторых скульптурных праектаў на БТ выступіў член гэтай кампаніі супраць пабудовы помніка каралю Міндоўгу ў Навагрудку. І вось ужо зараз пачалі “кукарэкаць” супраць узвядзення помніка вялікаму князю ВКЛ Альгерду ў Віцебску. Конны манумент ужо адліты ў бронзе, і ўлады горада рыхтуюцца да яго ўсталявання і адкрыцця. Але... Прадстаўнікі нейкай расійскай грамадскасці ў Віцебску нібыта напісалі паклёпніцкі ліст прэзідэнту Беларусі поўны непісьменных, бязглуздых выказванняў адносна Альгерда з патрабаваннем не ўсталёўваць помнік вялікаму князю. Вось прадстаўнікі так званай “грамадскасці”, якія падпісалі гэты ліст: Цярэшчанка, Кавалёў, Ісакаў, Зубакоў, Серада, Тарасевіч, Лябёдка... Іх дзейнасць не што іншае, як элементарная здрада. І гэтую з’яву трэба разглядаць праз прававыя нормы, якія могуць ацаніць такую дзейнасць як антыбеларускую.

Помнік Альгерду ў Беларусі-Літве — гэта найважнейшая культурная і палітычная акцыя нашага часу. Дай Бог ёй ажыццявіцца і надаць нашаму народу аптымізму і гістарычнай перспектывы існавання.

Міндоўг, Альгерд і Каліноўскі — ключавыя фігуры літоўскай (беларускай) гісторыі.

Першаму выпала роля стварыць Літоўскае каралеўства ў вярхоўі Нёмана са сталіцай у Навагрудку. Міндоўг каранаваўся на караля Літвы — старажытнай Беларусі. Ён разбіў ушчэнт татараў пад Гомелем і Мазыром і цалкам прадухіліў акупацыю нашай краіны Літвы татара-мангольскімі войскамі.

Вялікі князь Альгерд завяршыў фарміраванне тэрыторыі ВКЛ у этнічных межах Беларусі-Літвы, паспяхова стрымліваў напады нямецкіх ордэнаў і, галоўнае, ушчэнт разбіў орды трох татарскіх ханаў, вызваліў Украіну ад татарскага ярма ў 1362 годзе.

Кастусь Каліноўскі ўзняў свой народ на вызвольнае паўстанне супраць маскоўскай акупацыі нашай Бацькаўшчыны. Ён змагаўся за нашу будучыню, за аднаўленне нашай дзяржаўнасці.

Помнікі гэтым героям, найважнейшым асобам нашай гісторыі, павінны замяніць істуканаў акупацыйнай улады: Суворава, Леніна, Свярдлова, Калініна і іншых — якім ужо няма месца ў нашай прасторы, у нашым жыцці і нашай памяці.

**Алесь СМАЛЯНЧУК, прафесар, доктар гістарычных навук,**
**Леанід ЛЫЧ, прафесар, доктар гістарычных навук,**

**Мікалай КРУКОЎСКІ, кандыдат філалагічных навук, прафесар, доктар філасофскіх навук,**

**Анатоль ГРЫЦКЕВІЧ, прафесар, доктар гістарычных навук,**
**Міхась ГУРЫН, прафесар, доктар гістарычных навук,**
**Мікола САВІЦКІ, прафесар, акадэмік Міжнароднай акадэміі Еўразіі,**
**Эдуард АГУНОВІЧ, сябра БСМ, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі,**
**Аляксей МАРАЧКІН, мастак, сябра Беларускага саюза мастакоў,**
**Мікола КУПАВА, сябра Беларускага саюза мастакоў,**
**Алесь ШАТЭРНІК, сябра Беларускага саюза мастакоў,**
**Эдвард ЗАЙКОЎСКІ, кандыдат гістарычных навук,**
**Юрась ГУБАРЭВІЧ, першы намеснік старшыні руху “За Свабоду”.**

ПАДЗЯКА



## *Дзеці злавілі злачынцу*

*За дапамогу ў пошуку злачынцы кобрынскія міліцыянеры ўзнагародзілі дзяцей.*

Мясцовыя школьнікі сталі сведкамі таго, як малады мужчына скраў на міні-рынку курткі, і смела кінуліся за ім з крыкамі: “Злодзей! Злодзей! Трымайце злодзея!” Дзеці беглі за дарослым 33-гадовым мужчынам да той пары, пакуль не падаспела міліцыя. А вось дарослыя сведкі здарэння лавіць злодзея не кінуліся.

Міліцыя ўзнагародзіла юных пінкертонаў **Аляксандру Гурыну, Данііла Рагачука, Рамана Амельянчука і Данііла Дарашука** не толькі афіцыйнай падзякай, але і грашовай прэміяй.

ПАМЯЦЬ

## *На мемарыял у Трасцянцы ўжо сабралі мільён еўра*

*Гэта толькі палова сумы, якая патрэбна для ўзвядзення помніка на месцы былога лагера смерці “Трасцянец” пад Мінскам.*

Падчас сустрэчы фундатараў прадстаўнікі Дортмундскага Міжнароднага адукацыйнага цэнтра ўпэўнілі, што ў чэрвені 2014 года будзе закладзены падмурак Мемарыяльнага комплексу ў Трасцянцы. На сёння на будаўніцтва сабрана агромністая сума — мільён еўра. Грошы прадаставілі сенаты шасці нямецкіх гарадоў, фонды і саюзы Нямеччыны. Увогуле на будаўніцтва спатрэбіцца каля 2 мільёнаў еўра.

Сёння існуюць два праекты мемарыяла ў Малым Трасцянцы і Благоўшчыне. Іх стварылі архітэктары з “Мінскпраекта” і творчай майстэрні **Леаніда Левіна**. Вырашана, што для дасканалага выніку трэба аб’яднаць дзве канцэпцыі. Такім чынам, зараз ідзе стварэнне новага інтэграванага праекта мемарыяльнага комплексу.

**Марыя МАЛЕВІЧ.**

ЧУЛІ?

## *Папа Рымскі перадаў пергамент з благаславеннем жыхарцы Беларусі*

*Пра гэта паведаміў Апостальскі нунцый у Беларусі арцыбіскуп Клаўдыё Гуджэроці.*

Пры нядаўняй сустрэчы нунцый паказаў пантыфіку фота жанчыны, якая ў часы ганенняў на вернікаў, знаходзячыся пад пагрозай рэпрэсій, не пабаялася спрыяць захаванню каталіцкай веры. Папа Францыск падпісаў гэты фотаздымак, каб яго перадалі жанчыне. *“Ад Папы Францыска перадалі пергамент з бласлаўленнем для гэтай жанчыны, якое напісана па-беларуску”,* — расказаў Клаўдыё Гуджэроці.

Дата перадачы пергамента жыхарцы Беларусі і яе імя пакуль не раскрываюцца. *“Гэта будзе сюрпрыз”,* — растлумачыў каталіцкі іерарх.

ДЫПКУР’ЕР

## *У Бразілію — без візы*

*Для кароткатэрміновых паездак у Бразілію неўзабаве віза можа не спатрэбіцца.*

Паміж урадамі Рэспублікі Беларусь і Федэратыўнай Рэспублікі Бразілія падпісана пагадненне аб адмене віз для кароткатэрміновых паездак грамадзян.

Пагадненне ўступіць у сілу праз 90 дзён пасля яго ратыфікацыі ў парламентах Беларусі і Бразіліі, а таксама выканання іншых неабходных унутрыдзяржаўных працэдур, паведамляе belapan.by.

СПЕЦИАЛЬНЫЙ РЕПОРТАЖ

# Скидки в «Арена-Сити»: как приценивались к туалетной бумаге

*На днях в Минске проходил разрекламированный “марафон скидок”, где цены обещали снизить аж на 70%. “Народная Воля” побывала в модном торговом центре, чтобы убедиться — предложение оказалось немного приукрашенным.*

Новый столичный торговый центр “Арена-Сити” открылся весной этого года. Он находится далековато от центра города, рядом со знаменитой “Минск-Ареной” и элитным поселком “Дрозды”.

Заманить покупателей на новую торговую площадку решили старым проверенным способом — грандиозной распродажей. Руководство торговой площадки пообещало два раза в год — в ноябре и мае — устраивать трехдневный марафон скидок до 70%.

Вопреки прогнозам в день начала акции люди не стали штурмовать “Арену”. К открытию приехало не так уж много покупателей. В кафе и магазинах центра было свободно, а местами даже пустовато. Большинство покупателей сразу направлялись в магазин “ProStore”, где надеялись закупиться продуктами по сниженным ценам. Вот только 70%-ными скидками тут и не пахло. Еще на входе в торговый зал покупателей встречали таблички *“Скидки на продовольственные товары 20%”.* По сниженной стоимости можно было купить некоторые консервы и закатки, большим спросом пользовались “скидочные” мясо и фарш. С охотой люди брали морепродукты и красную рыбу. Например, на 200-граммовую пачку очищенных креветок в растительном масле по цене 26.950 рублей скидка составляла 5400 рублей. А вот сырным деликатесом по низким ценам побаловаться не удалось — на этот товар скидок не было. Собственно, как и на многое другое. Многие минчане надеялись закупиться в “Арене” недорогими кофе и чаем, но “скидочный” выбор был небольшим. Популярностью пользовались удешевленные овощи, макаронные изделия, булочки собственного производства.



**С общей суммы 458.900 скидка составила всего 32.900 рублей.**

Еще люди жаловались на туалетную бумагу. Гостей центра раздражало то, что на такой популярный товар нет существенных скидок. Оказалось, что снижение цен происходило не сразу. В пятницу начались скидки на еду, а в субботу — на непродовольственные товары.

Зато магазины и бутики, которые расположены в “Арене-Сити”, снизили цены на весь свой товар сразу. Правда, тут размер скидки каждый хозяин устанавливал на свой вкус. Например, бутик сети парфюмерных магазинов “Кравт” предложил каждому покупателю 25%-ную скидку на весь свой товар. Салон Vandini ограничился скромными 3% и 5%-ными скидками на мех и кожу. Сетевой магазин “Электросила” предложил скидку в 20%. Мультиварку, которая стоила 3.773.000 рублей, можно было купить за 1.825.000 рублей. От 15% до 60% стоимости изделий скидывали магазины детских товаров, предметов интерьера, растений. Даже аптека продавала лекарства с 15%-ной скидкой!

Были ли скидки в 70%? Наверняка! Только нам повстречать их так и не удалось. Возможно, на следующем скидочном марафоне в мае они будут больше бросаться в глаза.

Сколько смогли заработать в “Арене-Сити” за три дня скидок, сказать сложно. Но свою популярность центр явно повысил.

**Мария МАЛЕВИЧ.**



**РЭВІЗІЯ**

## Чым далей у лес...

*Старшыня Камітэта дзяржаўнага кантролю Аляксандр Якабсон, якому Аляксандр Лукашэнка даручыў разабрацца з тым, чаму забуксавала мадэрнізацыя дрэваапрацоўчых прадпрыемстваў, ужо адкрытым тэкстам гаворыць пра магчымыя крымінальныя справы і нанесены дзяржаве ўрон. Аказалася, што ні адрас мадэрнізацыі — то не прыбыткі, а, наадварот, праблемы.*



Так, па выніках паездкі ў Рэчыцу Аляксандр Якабсон абвясціў пра рашэнне правесці праверкі некаторых праектных арганізацый. "*Сваімі дзеяннямі яны зацягнулі тэрміны рэалізацыі праектаў*", — заявіў старшыня КДК.

У Бабруйску крымінальная справа ўжо распачата. Абвінавачаны па ёй — былы генеральны дырэктар "Фандока" **Уладзімір Майко**, якога падазраюць ва злоўжыванні ўладай і службовымі паўнамоцтвамі. Мадэрнізацыя тут пачалася ажно ў 2007 годзе. Вось толькі ніяк не скончыцца. Тэрміны рэалізацыі інвестыцыйнага праекта на бабруйскім прадпрыемстве пераносіліся ўжо... шэсць разоў. Так, лінія сарціроўкі круглага леса, на якую было выдаткавана амаль 2 мільёны долараў, проста прастойвае.

Іншымі словамі, пакуль можна гаварыць не пра поспехі мадэрнізацыі, а пра выкінутыя грошы. І так ледзь не паўсюль. Напрыклад, на магілёўскім прадпрыемстве нават запушчаныя лініі чамусьці так і не здолелі запрацаваць на поўную магутнасць. Да таго ж невядома, куды будзе прадавацца прадукцыя, бо на наступны год заключаны кантракты толькі на 15% плануемага аб'ёму вытворчасці.

І гэта толькі пачатак маштабнай рэвізіі выканання праекта, які анансаваўся як сапраўдны прарыў на знешнія рынкі. Праўда, ніякага прарыву і блізка не бачна — затое лічым страты.

**Ігар МАРОЗАЎ.**

**АСОБА**

## «А ўсё таму, што родам з лістападу...»

*20 лістапада адбудзецца вечарына "А ўсё таму, што родам з лістападу...", прысвечаная 65-годдзю вядомай беларускай паэтэсы **Яўгеніі Янішчыц**.*



"Непрыручанай птушкай" Палесся засталася яна ў свядомасці многіх. Янішчыц заўсёды жыла на мяжы двух светаў: рэальнага і ўяўнага. Талент "Палескай ластаўкі" сягаў высока ў неба, у той час як душа была злучана з зямлёю, сваім краем, з роднымі мясцінамі. Радзіма, Беларусь, дзяцінства — вось тыя крыніцы, якія поўнілі духоўнай энергіяй яе лірыку. Па словах Васіля Быкава, *"Жэня была самая таленавітая з усіх самых таленавітых паэтэс Беларусі, самая цнатлівая і дасканалая".*

*"Адной з лепшых старонак беларускай паэзіі стала інтымная лірыка Я.Янішчыц. Яе вершы перакладзены на англійскую, балгарскую, грузінскую, літоўскую, рускую, нямецкую, французскую і іншыя мовы свету, але Я.Янішчыц і сама была цікавым перакладчыкам*, — паведамляе tbm-mova.by.

У праграме мерапрыемства, якое адбудзецца ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Я.Коласа НАН Беларусі, — выступленні родных, сяброў, аднакурснікаў, калег, добрых знаёмых Яўгеніі Янішчыц. Творы паэтэсы будуць гучаць у выкананні заслужанай артысткі Беларусі, адной з вядучых актрыс Тэатра юнага гледача **Ларысы Горцавай**, песні на словы Я.Янішчыц выканае лаўрэат міжнароднага конкурсу **Надзея Бронская**.

**ПОДРОБНОСТИ**

## Татьяна Бондарчук по-прежнему танцует

*Назначенная на конец октября отчетно-выборная конференция Белорусской федерации танцевального спорта не состоялась. Федерацию по-прежнему возглавляет экс-директор Белгосцирка **Татьяна Бондарчук**.*



*"Действуя исключительно в интересах развития танцевального спорта в Беларуси, принимая во внимание все стороны ситуации, сложившейся в ОО "БФТС", с целью стабилизации общественных настроений в спортивной среде нашей организации, инициативная рабочая группа приняла решение перенести отчетно-выборную конференцию повторного созыва"*, — говорят сегодня в федерации.

Как уже сообщала "Народная Воля", в отношении Татьяны Бондарчук возбуждено уголовное дело, предварительное расследование по которому продлено до января 2014 года. Экс-директора Белгосцирка обвиняют в злоупотреблении служебными полномочиями.

Конференция федерации должна была пройти еще летом, однако по просьбе Бондарчук, в отношении которой тогда уже было возбуждено уголовное дело, ее перенесли. *"Резко ухудшившееся состояние моего здоровья не позволило мне присутствовать на запланированной отчетно-выборной конференции ОО "БФТС", отчитаться о проделанной работе и представить перспективный план развития федерации"*, — написала она в обращении к членам БФТС. Часть членов федерации попыталась провести альтернативное собрание, но Минюст признал его нелегитимным.

Не так давно членам федерации сообщили, что о дате, месте и времени проведения отчетно-выборной конференции им *"будет сообщено дополнительно".*

**Марина КОКТЫШ.**

**УПЕРШЫНЮ!**

## Беларускія школьнікі едуць у Бразілію

Беларуская каманда ўпершыню прыме ўдзел у Сусветнай гімназіядзе, якая пройдзе з 25 лістапада па 5 снежня ў Бразіліі.

Дэлегацыю Беларусі на спаборніцтвах прадставяць удзельнікі і пераможцы Рэспубліканскай спартакіяды школьнікаў-2013 у двух відах спорту — плаванні і лёгкай атлетыцы.

Сусветная гімназіяда — гэта міжнародныя спартыўныя спаборніцтвы сярод школьнікаў 14—17 гадоў. У праграме спаборніцтваў — спартыўная і мастацкая гімнастыка, аэробіка, плаванне і лёгкая атлетыка. У якасці дэманстрацыйных відаў спорту будуць прадстаўлены шахматы, дзюдо і каратэ.

**ВІНШУЕМ!**

## Карані Сяргея Процькі

*Сёння, 19 лістапада, Сяргею Сяргеевічу Процьку спаўняецца 90 гадоў. Знамянальная лічба! Колькі пройдзена дарог, колькі ўсяго пражыта!..*

*Нарадзіўся С.С.Процька ў вёсцы Драчкава, што на Міншчыне. "Галоднае і халоднае дзяцінства, а юнацтва зусім не было — пачалася вайна", — напісаў неяк сённяшні юбіляр.*

*Працаваць пачаў з 15 гадоў. "Я закончыў 8 класаў, і бацька сказаў: "Хопіць, сынок, плаціць за вучобу няма чым". Не памятаю, з чыёй дапамогай, уладкаваўся бухгалтарам па транспарце на спіртзаводзе Ляды, што недалёка ад Драчкава. Павінен быў улічваць працу і налічваць заробак 82 ездавым, што працавалі на конях, шафёрам чатырох аўтамашын і работнікам майстэрні..."*

*Вядома ж, заставалася адна мэта — закончыць сярэднюю школу. І яму гэта ўдалося. Перайшоў на працу ў бібліятэку і працягваў вучыцца.*

*У 1942 годзе стаў партызанскім сувязным, затым — байцом атрада імя С.М.Кірава. Пасля вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў працаваў старшынёй калгаса. "...Што-кольвечы зрабіць паспеў. Дапамагло сяброўства са старшынёй сельсавета Сямёнам Юрачкам. Усю маёмасць, што належала сем'ям былых паліцэйскіх з гарнізонаў спіртзаводаў у Лядах, Смілавічах, я аб'явіў уласнасцю калгаса. Юрачка мяне падтрымаў. Дзякуючы гэтаму, выканаў нарыхтоўкі дзяржаве збожжа і бульбы. Стварылася маленькая ферма свіней; у хлявах стаяла больш за дзясятак коней, некалькі кароў, авечак. І людзі, здэцца, былі задаволены маладым старшынёй".*

*Гэтыя радкі Сяргей Сяргеевіч напіша амаль праз семдзясят гадоў, а тады, падчас заканчэння вайны, яму не вельмі падабалася кіраўнічая пасада. Хацелася працягваць вучобу. І ён паступіў у Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт. Яшчэ да атрымання дыплома пачаў працаваць у газеце "Чырвоная змена", пасля — у газеце "Мінская праўда", часопісе "Сельская гаспадарка Беларусі".*

*Плённая праца Сяргея Сяргеевіча Процькі адзначана ордэнам "Знак пашаны", званнем "Заслужаны работнік сельскай гаспадаркі Беларускай ССР", шматлікімі граматамі.*

*Будучы ўжо на заслужаным адпачынку, С.С.Процька напісаў успаміны пад назвай "Мае карані". Віншуючы юбіляра з 90-годдзем, "Народная Воля" прапаноўвае чытачам фрагмент з мемуараў Сяргея Сяргеевіча — аб тым, як ствараўся калгас у Драчкаве.*

*Сяргей ПРОЦЬКА*

# «Будзем спаць пад адной коўдрай, працаваць адной сям'ёй!»

Памятаю, як ствараўся калгас у Драчкаве. Гэта было летам — у канцы чэрвеня ці пачатку ліпеня 1929 года. Мы з дзедам па звычцы сушылі сена. Быў поўдзень. Над вёскай вісела такая цішыня, што быў чуваць стракат konікаў на загуменні. І раптам гэтую сонную цішыню ўзарвала музыка. Як гром з яснага неба. Я выскачыў на вуліцу. Са смілавіцкай дарогі ў Драчкава ўязджала чародка — мо чалавек з дзесяць — коннікаў з бліскучымі трубамі на грудзях. Яны дулі ў гэтыя трубы, разносячы рэў па ўсёй ваколіцы. Коні дробна перабіралі капытамі, узнімаючы бялёсую пыльную засцень.

Вяскоўцы са здзіўленнем, а некаторыя і спалохам выбягалі на вуліцу, распытвалі адзін аднаго, што дзеецца. Да гэтага яны не чулі і не бачылі такога дзіва. Хіба толькі, калі Язэпаў Кандрат, настаўнік Лядзенскай школы, прамчаў па вуліцы на веласіпедзе. Тады болей за тыдзень абмяркоўвалі гэтую падзею: як гэта хлопец не бразнуўся вобзем. А цяпер во бліскучыя медныя трубы, з якіх вайсковыя трубачы выдзімалі то ціхія, ласкавыя, то аж увушшу трашчыць, прарэзлівыя гукі. Колькі ж гэта сілы трэба мець, каб выдуць такое! Бу, бум, бум! Гэта ўжо лупіў палачкай па высокім і круглым, як рэшата, бубне маладзенькі чырвонаармеец.

Праз якія паўгадзіны на плошчу каля крыжоў, дзе спешыліся коннікі, прымчала ўсё малалетняе насельніцтва вёскі. Пакрысе падыходзілі старэйшыя. Прыезджыя ўжо вынеслі стол (узялі ў Янечкі, што жыў побач), накрылі яго чырвонай матэрыяй, паверх паклалі стопку папер, а ў самым цэнтры паставілі ў чырвонай рамачцы партрэт таварыша Сталіна. Янечак прыцёг і лаўку. Яе прымасцілі ззаду стала. На лаўку селі двое — высокі, у зеленаватага колеру гімнасцёрцы, з-пад якой горкай выпіраў жывот, перацягнуты вузенькім раменьчыкам з бліскучым бляшаным канцом, і маленькі, шчупленькі чалавечак у чорнай сацінавай касаваротцы і чорных галіфэ. У маленькага былі крывыя, як у хворага на рахіт, ногі, абутыя ў хромавыя боты. На баку матлялася кабура з наганам. На шырокім твары высокага тырчэў доўгі, кручком уніз, нос.

Я выкарабкаўся з натоўпу і памчаў да дзеда, каб паведаць яму аб усім убачаным — хай і ён прыйдзе падзівіцца на вайскоўцаў з меднымі трубамі, паслухае, што скажуць гэтыя тоўсты і крываногі. Дзед ужо ўправіўся з сенам — зграб, склаў у капну. Я стаў расказваць, што робіцца на плошчы, колькі людзей туды прыпёрлася. Дзед з цікаўнасцю, аж прыгнуў галаву, слухаў, потым згодна кіўнуў: пойдзем. У гэты час з хаты выйшаў бацька — у васількаватага колеру галіфэ, ружовай святочнай кашулі, падперазанай белым паяском-вяровачкай з доўгімі шаўковымі кутасамі. На нагах — бліскучыя гумовыя галошы, надзетыя на белыя з воўны шкарпэткі і, каб не звальваліся, падвязаныя чырвонай стужкай.

Калі мы з дзедам прыйшлі на плошчу, сход быў у поўным разгары. Высокі з кручкаватым носам гаварыў даклад. Спачатку мы не разабралі, аб чым ідзе гаворка — толькі калектывізацыя, яшчэ раз калектывізацыя! — а потым уцямілі: у Драчкаве неабходна арганізаваць калгас. Толькі ў калгасе чалавек будзе шчаслівым і свабодным. Яму не трэба будзе гнуць спіну на кулака-міраеда, кожны будзе працаваць на сябе. Працаваць па магчымасці, а атрымліваць за сваю працу, колькі зарабіў працадзён. Галодных і бедных не будзе. Магчымасці калектыўнай гаспадаркі такія, што адна вёска, калектывізаваўшыся, можа пракарміць дзесяць. На палях будуць працаваць трактары, сеялкі, камбайны, іншыя машыны, якія ў дзясяткі, а то і ў сотні разоў больш прадукцыйныя, чым селянін-аднаасобнік са сваім плужком і конікам...

Вяскоўцы слухалі дакладчыка ўважліва, нават з цікаўнасцю, яго ніхто не перапыняў. Закончыўшы даклад, кручканосы спытаў: якія будуць пытанні? Пачуўся зычны голас з натоўпу:

— А ці праўда, што ў калгасе ўсе будуць есці з аднаго катла і спаць пад адной коўдрай?

Хтосьці хіхікнуў, потым засмяяўся, а праз хвіліну рагатала ўся плошча.

— Калі пад адной коўдрай, то я першы запісваюся ў калгас! — адольваючы гоман, выкрыкнуў Туркаў Каленік.

— А што вы рагочаце? — прарэзліва і ад натугі піскліва спытала актывістка Алена Маліноўская. Яна была ў ботах, кароткай спадніцы і вайсковай гімнасцёрцы, падперазанай шырокім рамянём. На шыі завязаная вузлом чырвоная хустачка. Накшталт піянерскага гальштука. — Я дык зусім не супраць адной коўдры. Мала, што цёпла, дык можна легчы побач з кім хочаш.

— А куды дзенеш свайго Івана?

— Дык жонак у калгасе не будзе?

— Што варыць будзем у тым катле?

Пытанні сыпаліся, як гарох з рэшата. Кручканосы паспрабаваў супакоіць сяльчан, мала што крыкам прасіў цішыні, але людзі не ўнімаліся. Тады меншы, што з крывымі нагамі, выцягнуў з кабуры наган і, зароўшы "Маўчаць!", пальнуў у паветра. Плошча імгненна сціхла. Нават чуваць было, як нехта надрыўна сапе, а потым гучна высмаркаўся.

— Наконт коўдры і агульнага катла... — ціха, з дакорам у голасе, пасля працяглай паўзы загаварыў дакладчык. — Гэта кулацкія выдумкі. Кожны будзе есці са сваёй міскі, спаць на сваіх нарах, э-э-э, палацях, а вось працаваць прыйдзецца гуртом, калектыўна. Зямля абагульваецца: коні, сельскагаспадарчы інвентар, транспартныя сродкі — таксама. У каго дзве каровы, болей за дзве авечкі, то адну карову і лішніх авечак належыць перадаць у калгас.

— А курэй колькі можна пакінуць?

На гэтае пытанне таўстапузы не адказаў, нават галавы не павярнуў у бок пытаўшага і з ледзь улоўным расчараваннем працягваў:

— Не будзем паддавацца на кулацкую прапаганду. Вы ж ведаеце, што кулакі нам нічога добрага не зычаць... Давайце, хто згодны, запісвацца ў калгас.

На лаўцы за сталом занялі месца актывістка Алена, партыец Сяргей Прыстром і маладзенькі чырвонаармеец. Яго пасадзілі за пісара.

Грымнула музыка. Трубачы зайгралі марш. Амяльян Маліноўскі, што стаяў побач, патлумачыў, што марш называецца "Развітанне славянкі". Ён жа паведаў, што высокі з гарбатым носам — гэта сакратар райкама партыі Берынсон, а меншы, з наганам, упаўнаважаны райфо. Ён будзе сачыць за калектывізацыяй і праводзіць раскулачванне. Завуць яго Мамачка. Да стала падышлі Андрэй Кудзін, Паўла Зелянкевіч, Каленік.

— Ідзіце, землякі, запісвайцеся ў калгас, — устала з-за стала Алена. — Я звяртаюся да вас, жанчыны: штурхайце сюды сваіх мужыкоў. Калі хто не ведае, што такое рай, пазнае яго ў калгасе. Уяўляеце сабе, бабы, якое жыццё настане! Суцэльная механізацыя. Машыны будуць даіць кароў, карміць свіней, а захочаш, дык і гаршкі ў печ ставіць.

Да стала пацягнуліся беднякі, у каго ні кала ні двара. Заможныя ж сяльчане — Клімовіч, Зыгмантовіч, Хмяльніцкія — адсоўваліся назад, прапускаючы наперад люмпенаў. Вось праціснуўся да стала Сямён Канаплянік. Зрэбная сарочка, якая за сваё доўгае жыццё так і не зведала мыла, вісела на ім, як на коліку, і гэткія ж шэрамя абтрэпаныя знізу штаны хавалі парэпаныя, пад колер штаноў, босыя ногі. Даўно не стрыжаныя, зваляныя сівыя валасы, зарослы рыжай шчацінай падбародак...

— Прашу запісаць у калгас і мяне — звярнуўся ён да прысутных за сталом. Выцвілыя ад перапою некалі блакітныя вочы ўгодліва глядзелі на начальства. — У мяне няма ні каня, ні каровы... Затое будзе ў калгасе! — сасмяглыя губы расцягнуліся ў радаснай усмешцы, паказваючы вышчарбленыя жоўтыя зубы.

Кручканосы нейкі час глядзеў на Сямёна, хацеў нешта сказаць, але перадумаў і перавёў позірк на мужыкоў, што кучкаваліся ззаду. Да музыканта, што трымаў у руках самую вялікую трубу, падышла Алена і нешта яму ціха сказала. Той згодна матнуў галавой. Праз мінуту трубачы зайгралі барыню. Спачатку ціха, нясмела, нібы просячы прабачэння ў вяскоўцаў, што трэба расступіцца, утварыць круг для танцораў. Але хутка музыкі задзьмулі ў трубы мацней, рытм танца пачаў нарастаць, і ўжо ногі самі прасіліся патаптаць шэры пясок. У сярэдзіну кола выйшла Алена. Узняўшы да плячэй сагнутыя ў локцях рукі і паводзячы імі з боку ў бок, яна спачатку тупнула нагой, выбіўшы воблачка пылу, на дыбачках прайшлася па крузе і спынілася ля Супрона. Ён стаяў наперадзе і, здэцца, чакаў запрашэння, бо адразу, нібыта певень, адтапырыўшы крыло, пайшоў вакол яе ўпрысядкі. Мамачка і сакратар райкама з непрыхаванай цікаўнасцю ўставіліся на танцора. А яму толькі гэтага было і трэба. Завяршыўшы круг, ён нечакана выскачыў на сярэдзіну і, топнуўшы, стаў адбіваць далонямі такт барыні па каленях, грудзях, а пасля то адной, то другой рукой па галошах, паварочваючыся тулавам то назад, то ўлева, то ўправа. І гэта ў яго так хвацка атрымлівалася, што думалася: ён хлопае рукамі не па каленях, а б'е па барабане. І тут жа без перапынку закруціўся ваўчком. Затым выпрастаўся ва ўвесь рост, горда павярнуў галаву да стала і, прытопваючы, прайшоўся каля яго. Сакратар аж перагнуўся цераз стол, каб лепш разгледзець танцора. Гэта яшчэ больш прыбавіла яму імпэту. Адбіваючы чачотку, Супрон літаральна еў вачыма начальства.



Алена, зрабіўшы яшчэ два ці тры выпады нагамі, адышла ў бок. А ў сярэдзіну кола прытопаў Сямён Канаплянік. Ён то падскокваў з нагі на нагу, то, унурыўшы галаву, раз'юшана калаціў па пяску падэшвамі босых ног, не надта прыслухоўваючыся да рытму музыкі. Суседства Сямёна Супрону не надта пасавала, таму ён яшчэ раз ці два прашпацыраваў па крузе, эфектна перакуліўся ў паветры праз галаву, не дакрануўшыся зямлі. Рыхтачкі як гімнаст ці цыркач.

І тут плошча замерла. Галош, сараваўшыся з нагі Супрона — перацёрлася стужка, якой быў прывязаны, — зрабіў дугу над сталом і шлёпнуўся перад партрэтам Сталіна. Кручканосы пабялеў, імгненна падхапіўся з-за стала, а Мамачка выхапіў з кабуры наган. Няведама, чым усё скончылася, калі б вяскоўцы раптам не ўзнялі такі рогат, што чутна стала ў суседняй Грыве. Супрон збянтэжана стаяў перад сталом і ачмурэла пазіраў на начальніка. Той нарэшце ўцяміў, што здарылася, пальцам падчапіў галош і кінуў яго пад ногі танцора. Збялелы твар натужна ўсміхнуўся.

Яшчэ хвілін пяць не сціхаў рогат. Нават музыкаў не было чутна. (А можа, трубы маўчалі?) Калі драчкаўцы крыху ўгаманіліся, папрасіў слова Сяргей Прыстром. Ён гаварыў аб перспектывах калектыўнай гаспадаркі, перавагах калектыўнай працы, што ён з радасцю запісаўся ў калгас і заклікае ўсіх паследаваць яго прыкладу. У канцы свайго выступлення звярнуўся да бацькі:

— А ты, Супрон, чаму яшчэ не запісаўся?

Бацька кулем кінуўся да стала. Паставіўшы свае каракулі на лістку, што падсунуў маладзенькі чырвонаармеец, ён павярнуўся да натоўпу, адшукаў некага з вяскоўцаў і паклікаў:

— Ідзі і ты, Хвагей, запісвайся.

Яшчэ некалькі драчкаўцаў звязалі свой лёс з калгасам. Запісваліся пад музыку. Трубачы ігралі то польку, то кракавяк. Алена папрасіла: давайце прыпеўкі! Страсянуўшы кароткай прычоскай і прытанцоўваючы, яна ціхім і даволі прыемным голасам запела:

*Сонца свеціць у аконца,*
*Светлы дзень настаў для нас.*
*Цяпер будзе ў нас два сонцы —*
*Сонца ў небе і калгас!*

Людзі стрымана загаманілі. Сакратар запляскаў у ладкі. За ім заляпалі далонь аб далонь спачатку актывісты, што сядзелі побач, а тады і многія сяляне. І тут у кола выскачыла Базылёва Хадорка. Яе звонкі голас ураз пакрыў воплескі апладысментаў:

*Аднаасобнік нам не роўня —*
*Камунізм бярэм з сабой!*
*Будзем спаць пад адной коўдрай,*
*Працаваць адной сям'ёй!*

Вяскоўцы дружна зарагаталі. Хтосьці крыкнуў: давай, Хадорка! І яна з азартам працягвала:

*Не гаруйце, дзеўкі, дужа*
*З-за палоскі за мяжой!*
*Кожнай прыйдзецца па мужу,*
*А захочаш — пяць мужоў!*

— Га-га-га! — не сціхала плошча. Кручканосы спахмурнеў. Мамачка рэзка павярнуўся да музыкаў і махнуў рукой: хопіць! Трубы змоўклі. Сакратар устаў з-за стала, падняў руку, супакойваючы сялян.

— Давайце, таварышы, працягваць сход, — як ні ў чым не бывала загаварыў ён. — У арцель запісалася 19 сялян. Хто хоча, можа запісацца пазней — дарога нікому не заказана. А цяпер абяром праўленне калгаса. Якія будуць кандыдатуры?

Пачуліся воклічы: Сяргея Прыстрома, Паўла Зелянкевіча, Андрэя Кудзіна... Мамачка прапанаваў уключыць у праўленне Супрона Процьку. Усе дружна прагаласавалі за будучых праўленцаў. Старшынёй абралі Прыстрома — па вызначэнні сакратара, стойкага камуніста і адданага справе Леніна—Сталіна чалавека.

— А якую назву дадзім калгасу? — спытаў Зелянкевіч.

Зноў пасыпаліся прапановы: "Новае Драчкава", "Чырвоны араты", "Змагар". Рысу падвёў сакратар райкама:

— Назавём нашага першынца "Новы мір"!

Усе згадзіліся. Хоць на беларускай мове слова "мір" — "свет". Але гэта назва калгаса так і засталася да самага яго скону. Тады не знайшлося чалавека, які паправіў бы сакратара. А магчыма, і быў такі, ды збаяўся. Цяпер у Драчкаве саўгас, названы таксама бязглузда нейкім чыноўнікам — "Загор'е". Дзе ён бачыў пад Драчкавам горы?

Першыя гады два калгаснікі "Новага міру" жылі прыпяваючы. Пакуль вялося раскулачванне, ім тое-сёе перападала. Памятаю, бацька часцяком прывозіў дадому то мяшок круп ці мукі, то кумпяк кабана, а адзін раз — два залатыя чырвонцы. Гісторыя іх такая. Мамачка, які зблізіўся з бацькам, часта наведваўся да нас, каб перакуліць чарачку. Неяк ён сказаў: "Заўтра паедзем дабываць золата". Тады падумалі: чалавек жартуе, а мінуўшы некалькі дзён пачулі, што ў Дукоры абрабавалі яўрэяў. Сагналі іх у цесную лазню — каб толькі маглі стаяць — і трымалі дзень і ноч да таго часу, пакуль не прызналіся, дзе схавана золата. Баялі, што сабралі яго шмат. Два залатыя чырвонцы, што прынёс бацька, якраз і мелі дукорскае паходжанне — падарунак п'янага Мамачкі.

У пачатку 1930-х гадоў у калгас сталі заганяць сілай. Цяпер ужо сераднякоў. Хто не згаджаўся, раскулачвалі і высылалі. Калгас "Новы мір" разросся, стаў адным з буйных у раёне. Але вось парадокс — з павелічэннем калектыўнай гаспадаркі пагаршалася жыццё калгаснікаў. Усе заможныя сялянскія гаспадаркі вакол Драчкава былі раскулачаны, дабро іх праедзена, і калгаснікам прыйшлося жыць на тое, што заробяць на працадні. На працадні ж выдаваць не было чаго. Колькі памятаю, бацька ніколі не атрымліваў хлеб на працадні. Бульбы яшчэ калі-нікалі перападала, а хлеба... Восенню дзяржава падчыстую вымятала калгасныя засекі, не вельмі абцяжарваючы сябе клопатам, што застанецца калгаснікам. Мой бацька хутка скеміў: чакаць канца года, каб атрымаць хлеб на заробленыя працадні, няма ніякага сэнсу. І ён перайшоў на аванс — амаль штомесяц выпісваў у калгасе па пуду ці два зерня ў лік будучых заробкаў. Наступала зіма, даваць на працадні калгаснікам было нечага, і аванс спісваўся. Так сям'я трымалася, калі не на хлебе, то на зацірцы. Бацька не вельмі дужа працаваў у калгасе — не было таго года, каб ён выпрацаваў больш за 100 працадзён. А вось сусед Хвагей Марціновіч хадзіў на працу штодзень, зарабляў па 400—450 працадзён і нічога на іх не атрымліваў, акрамя скрынкі ці паўтары бульбы. І то не кожны год. Але такіх працаўнікоў, як Хвагей, у Драчкаве бракавала. Большасць было такіх, як мой бацька.

Ужо паміналася, што, уступіўшы ў калгас, у каго былі дзве каровы, адну павінны былі абагуліць — адвесці на арцельную ферму. У нас на той час было дзве каровы — дзед пакінуў з бізнесу бацькі. І вось праз дзень пасля сходу наш двор апанаваў лямант — галасіла маці: "А мая ж ты карміцелька, і што з табой зрабілася, які брыдкі чалавек наслаў на цябе порчу-у-у?!!" Пасярод двара стаяла карова Квятуха. Хістаючыся з боку ў бок, яна бесперапынна матляла галавой, а з роту клочкамі валіла пена.

Паклікалі ветэрынара — вясковага хлопца Валодзю Клімовіча, які толькі што вярнуўся з ветэрынарных курсаў. Валодзя з'явіўся хутка. З важным, заклапочаным выглядам ён боязна абышоў карову, для нечага падняў хвост, зазірнуў пад жывот і сказаў, як адрэзаў:

— Неадкладна зарэзаць! Вельмі небяспечная хвароба. Магчыма, сібірская язва. Мяса закапаць у глыбокую яму! — Хуценька памыў рукі і пайшоў.

Бацька выцяў Квятуху абухом паміж рог і касой перарэзаў горла. З разяўленай пасці вываліўся змылены кавалак гаспадарчага мыла... Бацьку не хацелася аддаваць у калгас сваю карову.

Перад вайной, успамінаючы, як у Драчкаве ствараўся калгас, я напісаў верш. Добра, што гэтым асабліва не хваліўся. Ужо ў вайну прачытаў яго дваім-траім сябрам, у тым ліку і Лідзе Маліноўскай. А пасля вайны яна паведаміла ў КДБ, што я пісаў антысавецкія і абражаючыя Сталіна вершы. Абражаў калгасны лад... Мне прыпомнілі гэта, калі працаваў у газеце "Чырвоная змена".

ТОЧКА ЗРЕНИЯ

# Самое главное в жизни — любовь

Физиологическое здоровье человека и продолжительность его жизни в земном мире во многом зависит от качества и количества употребляемой пищи. Каждый человек по отношению к себе — самый лучший доктор (во всяком случае так должно быть). В еде важно иметь чувство меры, прислушиваться к своему организму, который сигнализирует, от чего человеку хорошо, а от чего не очень. Нельзя насиловать свое тело, но и потакать его капризам и слабостям тоже не следует. Надо иметь в виду, что качество питания, его влияние на здоровье зависит от группы крови человека. Поэтому то, что хорошо одному, может быть плохо другому. И еще: употреблять в пищу желательно то, что произрастает там, где человек родился и проживает. Дело здесь в энергетике растений и животных, проживающих на определенной территории.

Здоровье человека и продолжительность жизни во многом определяются его наследственностью. Алкоголики, наркоманы, разного рода извращенцы не могут дать здорового потомства. Природа наказывает как их самих, так и их потомство, лишая возможности продолжать свою жизнь в детях, внуках, правнуках...

С определенного возраста многим известна психологическая и духовная усталость: физиологические механизмы тела в порядке, все его органы и системы функционируют нормально, а человеку ничего не хочется делать, иногда даже просто не хочется жить. Кстати, такое состояние свидетельствует о наступающей или уже наступившей старости.

От чего устает в процессе земной жизни дух в теле человека? Прежде всего от несправедливости, унижения человеческого достоинства, лжи, обмана, жестокости, зла и т.п. И не важно, от кого это исходит, — от него или от других. Устает он и от однообразия жизни, когда каждый последующий день похож на предыдущий, как две капли воды. Устает душа и от болезней тела.




Особенно негативно сказывается на душевном состоянии человека отсутствие любви. Сколько по этой причине возникает трагедий — даже у совершенно физиологически здоровых людей!

Любовь, милосердие, благожелательность, исходящие от человека и направленные к нему, положительно сказываются на состоянии его духа и на телесном здоровье и продолжительности жизни. Доказательством этому является жизнь любящих друг друга супругов. Они, как правило, доживают до глубокой старости. Для них характерно медленное угасание духовных и физических сил. Они почти одновременно переходят от земной жизни к жизни духовной. В ином мире их души соединяются и представляют единое целое.

Любая слабость человека от слабости его духа. Сила духа и в определенной мере здоровье тела во многом зависят от душевного спокойствия человека.

Для спокойствия души, здоровья тела и долгой жизни необходимо любить жизнь как таковую, то есть любить Солнце и Землю, поля и леса, реки и озера, луга и даже болота нашей Беларуси, любить людей, которые живут рядом с вами. Они отплатят вам тем же.

**Изяслав МОРОЗОВ, кандидат философских наук,**
**Тереза РАУКУТЬ, теолог.**

ДОМАШНИЕ АРХИВЫ

## Записки академика Конева

*На страницах вашей газеты неоднократно высказывались соображения компетентных авторов по вопросу реформирования Академии наук. Перебирая свои документы, я недавно обнаружила записи, сделанные моим отцом — **Сергеем Васильевичем Коневым** на тему реформирования Академии наук.*

*Мой папа — академик НАН Беларуси, доктор биологических наук, профессор, проработал в Академии наук почти 50 лет, умер в 2005 году. Очевидно, эти его записи появились в период, когда Академию наук возглавил Михаил Мясникович. Как мне показалось, некоторые его соображения могут быть актуальными и сегодня, поэтому и отправляю их в редакцию "Народной Воли"...*

*С уважением —*

**Ю.С.Конева.**

ТОЧКА ЗРЕНИЯ

# Эффективность Академии наук можно увеличить в десять раз



Ни один из классических диктаторов — ни Сталин, ни Гитлер, ни Муссолини, ни Франко или даже Пиночет — не осмелились отменить выборы президента Академии наук, заменив их назначением. Это роковой, беспрецедентный и убийственный шаг. Чреват он непредсказуемыми последствиями. Наука на самом деле самоорганизующаяся система (есть специальная научная теория самоорганизации — синергетика) и ее структура и функциональные взаимоотношения естественным образом шлифовались изнутри десятилетиями. Внешнее, чужеродное вмешательство приведет к резкому неуправляемому дисбалансу, переходу к бифуркационной точке и, как следствие, к дезорганизации и распаду системы.

Передовой науке Германии понадобилось 40 лет, чтобы восстановить свой потенциал после военного реформирования Гитлера.

Мое отношение к тому, что сейчас происходит, резко отрицательное, считаю, что это просто откровенное убийство науки.

Что касается мер и средств по повышению уровня научных исследований и эффективности науки, могу сообщить следующее.

**1.** Один из самых больных кадровых вопросов — это утечка лучших молодых и талантливых ученых либо за рубеж, либо в коммерческие структуры. Моя лаборатория поставила за рубеж восемь элитных сотрудников. Для решения этого вопроса необходимо поднять на достойный уровень авторитет и престижность науки. В том числе оплату труда. Я, например, как и другие завлабы, по зарплате оказался переведенным из завлабов-докторов в ранг уборщицы. Есть, конечно, и балластные сотрудники. От них нужно избавляться.

**2.** Приборный парк института и лаборатории не обновлялся более 10 лет. Приборы либо вообще вышли из строя, либо давно морально и физически устарели. Нет денег на химические реактивы, объекты исследования (лабораторные животные)... Необходимо хотя бы минимальное финансирование, чтобы создать условия для нормальных экспериментов. Иначе о какой конкуренции с Западом может идти речь?

**3.** Нетерпима и губительна для людей науки информационная изоляция от достижений и технологий мировой науки, имеющая место в Республике Беларусь. Скоро мы перестанем понимать даже язык международной науки. Теперь в библиотеках можно познакомиться лишь с российскими публикациями. Иностранные журналы вообще не выписываются. В Институте отсутствует достаточная связь с интернетом.

**4.** Очень больной вопрос об эффективности фундаментальных и прикладных исследований, вопрос о так называемом внедрении в практику научных результатов. Здесь корень зла в незаинтересованности производственников по внедрению. И даже наоборот — руководители производства заинтересованы в закупке материалов (препаратов), оборудования и технологий за рубежом. Что-нибудь да и перепадет в личный карман. Радикально можно изменить положение лишь в создании крупных частных предприятий и объединений. Ведь частник быстро поймет свою выгоду и даст жизнь перспективной разработке. В качестве некоего паллиатива можно предложить установление для руководителей производства весомых премий за внедрение разработок.

Эффективность Академии наук можно увеличить не в два, а, я думаю, по крайней мере в десять раз "простым" способом: обеспечить внедрение уже имеющихся разработок.

**С.В.КОНЕВ, заведующий лабораторией биофизики и фотобиологии мембран ИФБ НАНБ, академик.**



КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

## *Патрапіць дзед у іншы свет*

**У Вілейскім раёне 92-гадовы дзед на сваім "Запарожцы" ў чарговы раз стаў вінаватым у аварыі. Ён лічыць: "Калі я інвалід, дык на дарогах усе павінны мяне прапускаць".**

*У дзеда выгляд пераможцы,*
*Прэ па сустрэчнай паласе,*
*Каб даказаць, што "Запарожца"*
*Баяцца "Мерседэсы" ўсе.*
*Ён не зважае на Феміду*
*І не ідзе на кампраміс.*
*"Дарогу дзеду-інваліду!" —*
*Такі ў нахабніка дэвіз.*
*Хай моліцца штодзённа Богу*
*Неўтаймаваны гэты дзед,*
*Бо можа стацца, што дарогу*
*Яму саступяць*
*На той свет...*

## *Няма і ў шахаў столькі гмахаў*

**Колькасць афіцыйных рэзідэнцый прэзідэнта пераваліла за дзясятак. Столькі рэзідэнцый не мае ніводзін кіраўнік дзяржавы ў свеце.**

*Хоць і не скажаш, што трывога,*
*Але ў народзе слух узнік,*
*Што рэзідэнцый мае многа*
*Дзяржавы нашай кіраўнік.*
*Маўляў, жыве па-заліхвацку,*
*Нібы арабскі шэйх ці шах,*
*Удостатку хапіла б Бацьку*
*І рэзідэнцыі ў Драздах;*
*Маўляў, пакуль не мае кожны*
*Над галавой уласны дах,*
*Ці ж прэзідэнту ўзводзіць можна*
*За гмахам гмах,*
*За гмахам гмах?*
*А я ні зайздрасці, ні злосці*
*Зусім не маю ў галаве.*
*З нас, беларусаў, хай хоць хтосьці*
*Як шэйх арабскі пажыве...*

* * *

*Палацы ўзводзяцца з размахам,*
*І людзі кажуць недарэм:*
*Для падабенства з шэйхам-шахам*
*Патрэбна мець яшчэ й гарэм.*

## *Для вёскі навошта клуб, лазня і пошта?*

**Жыхары вёскі Чэмеры Слонімскага раёна пратэстуюць супраць закрыцця мясцовай бібліятэкі. Да гэтага ў вёсцы ліквідавалі ФАП, лазню, пошту...**

*Не казалі гнеўна словы*
*Людзі ў вёсачцы, калі*
*Зачынялі клуб мясцовы.*
*Думкі гэткія былі:*
*"Тэлевізар, дзякуй Богу,*
*Мае кожны, і даўно*
*Мы забылі ўжо дарогу*
*І на танцы, і ў кіно".*
*На чарзе ва ўлады пошта.*
*Падказаў камусьці клёк:*
*"Для людзей яна навошта?*
*Хай вісіць на ёй замок".*
*Бунтаваць гурма не стала.*
*Простым бачыцца сакрэт:*
*"У кішэнях грошай мала —*
*Не выпісваем газет".*
*Парашыла ўлада: "Лазня*
*Не дае прыбытку й грош.*
*Хоць у брудзе люд завязне,*
*Лазню трэ "пусціць пад нож".*
*"Ёсць у кожнага карыта, —*
*Разважаў вясковы люд. —*
*Так што будзе шыта-крыта —*
*Неяк змыць удасца бруд".*
*Не пярэчыў люд таксама,*
*Успрыняў задуму, каб*
*Засталася ў вёсцы крама,*
*Але быў закрыты ФАП.*
*"Хоць амаль усе — калекі, —*
*Так падумала гурма, —*
*Ды якія ў ФАПе лекі?*
*Нават пластыру няма".*
*А калі бібліятэку*
*Сцерці ўздумалі з зямлі,*
*Не стрывалі людзі здзеку,*
*Гвалт і лямант паднялі:*
*— Тут па-вашаму не будзе!*
*Не зусім мы быдла ўсё ж...*

* * *

*А навошта ў вёсцы людзі?*
*Можа, варта й іх "пад нож"?..*

ОЧЕНЬ ЛИЧНОЕ

## *Берегите мужчин!*



Недавно, находясь в одной из больниц нашей столицы, обратил внимание на тот факт, что из 50 пациентов отделения было 44 мужчины и только шесть женщин... И всем этим женщинам за 70. Одна уже девять лет живет после смерти мужа в полном одиночестве. Со слезами на глазах она говорит: *"Поверьте, раньше даже не задумывалась, как тяжело, больно и страшно в опустевшей квартире..."* И сделала вывод: очень нужно беречь мужчин!

Это неоспоримый факт: мужчины умирают раньше женщин на 7—9 лет. Известно, что женщины выносливее мужчин. Женщины лучше и быстрее справляются со всеми тяготами жизни: стрессами, депрессиями и болезнями. У них больше запас энергии. Мужчины чаще впадают в депрессию, чаще болеют и даже, как ни странно, при высоких физических нагрузках быстрее устают, особенно отрицательно на их психике сказываются катаклизмы нашей жизни.

Но все это было бы не так страшно, если бы в доме у каждого мужчины царили взаимная любовь, уважение, внимание, понимание и забота. Когда этого нет и в помине, мужчины начинают искать утешение в пьянстве и лет через 5—7 лет уже становятся неспособны к интимной близости... Распадаются семьи, растет количество сирот...

Так что права та пациентка в больнице: стоит беречь мужчин. И делайте это, пока не поздно!..

**С уважением —**

**Юрий ЯСИНСКИЙ, ветеран труда и спорта.**

*Минск.*

МУЖЧЫНСКІЯ СПРАВЫ

# Не трэба нам беларускіх лёзаў



**Адам Глобус.**
**Фотапраект Мікалая Батвінніка "Бег па лязе брытвы".**

Мяне вельмі здзівіла заметка віцябчаніна **Цімафея Макаранкі** ***"Почему нет белорусских лезвий?"***, апублікаваная ў "Народнай Волі" за 5 лістапада. Аўтар скардзіцца на адсутнасць у нашых крамах беларускіх лёзаў для галення і на высокія цэны на іншаземныя: маўляў, шмат грошай патрачіў на іх набыццё, а выйсця не знайшоў.

А калі глядзець на гэта больш сур'ёзна, дык трэба мець на ўвазе тое, што няма ў свеце ніводнай краіны, дзе б уласнай прамысловасцю выраблялася ўсё патрэбнае яе жыхарам. Многія тавары выгадней завозіць з іншых краін, чым вырабляць у сябе. У нашых умовах — гэта якраз той выпадак, калі тыя ж лёзы лепш завозіць аднекуль, чым наладжваць сваю вытворчасць. Ды калі б мы і пабудавалі прадпрыемства па вырабе беларускіх лёзаў, дык не задарма б яны даставаліся нам! Ды і дзе гарантыя таго, што нашы лёзы былі б больш якаснымі і таннейшымі за замежныя? Баюся, каб не атрымалася наадварот. Спадар Макаранка заўважае, што шведскім лязом можна пагаліцца 20 разоў. Гэта значыць, што адным лязом можна карыстацца паўтара месяца, калі галіцца праз дзень. І калі падзяліць затрачаныя грошы на колькасць галенняў, дык атрымліваюцца капейкі!

У розныя гады я карыстаўся рознымі замежнымі лёзамі, а цяпер — маскоўскімі "Рапира". І нацешыцца імі не магу: галюся праз дзень, і аднаго ляза мне хапае на два месяцы. А калі праз два дні — і таго болей. З прымяненнем адпаведнага крэму галенне атрымліваецца мяккае, чыстае, камфортнае. Не тое што пры галенні электрабрытвамі, якімі, назіраю, мужчыны карыстаюцца кожную раніцу. І каштуе "Рапира" не больш за дзве тысячы рублёў за адно лязо. Атрымліваецца, што ледзь не задарма абыходзіцца мне кожнае галенне!

Дык ці трэба нам, зыходзячы з эканамічных меркаванняў, будаваць сваё прадпрыемства па вытворчасці лёзаў для галення, якія завозяцца да нас у вялікай колькасці і на любы густ? Лічу, што аўчынка вырабу не вартая...

**Міхаіл ЖУКАЎ, ветэран працы савецкага часу.**

*г.Баранавічы.*

ГУЧНАЯ СПРАВА

*Ці прызнаюць міжнародныя праваабарончыя арганізацыі ксяндза Уладзіслава Лазара вязнем сумлення?*

**(З пісьма Марыі Шэпелевіч.)**

# У падтрымку ксяндза Уладзіслава Лазара

Адназначна адказаць на ваша пытанне, спадарыня Марыя, цяжка, але прадстаўнікі дэмакратычных арганізацый Беларусі звярнуліся ў міжнародныя арганізацыі з просьбай прызнаць арыштаванага беларускім КДБ ксяндза Уладзіслава Лазара вязнем сумлення.

**Павел Севярынец**, сустаршыня аргкамітэта па стварэнні партыі "Беларуская хрысціянская дэмакратыя", **Зміцер Дашкевіч**, лідар "Маладога фронту" (зарэгістраваны ў Чэхіі), і **Ганна Шапуцька**, старшыня грамадзянскай ініцыятывы "За волю" заявілі падчас прэс-канферэнцыі, што яны не падзяляюць пазіцыю чакання судовага прыгавору ў гэтай справе.

Нагадаем: пра арышт ксяндза Уладзіслава Лазара стала вядома праз некалькі дзён пасля ліпеньскай заявы Аляксандра Лукашэнкі наконт затрымання супрацоўніка беларускіх спецслужбаў, якія працаваў на замежныя дзяржавы. Лукашэнка сказаў, што шпіён звязваўся з замежнымі спецслужбамі праз прадстаўніка каталіцкага касцёла. Пазней Лазару прад'явілі абвінавачанне ў перадачы грошай і матэрыяльных каштоўнасцяў чалавеку, якога падазраюць у шпіянажы на карысць іншай дзяржавы. У выніку святару можа пагражаць да 15 гадоў турмы, і ў той жа час справа цалкам засакрэчана, на сённяшні дзень ніякія доказы віны святара грамадскасці не прадстаўлены.

Зміцер Дашкевіч патлумачыў сваю пазіцыю так: *"Усё абсалютна зразумела. Сумленнага чалавека трымаюць пад вартай і абвінавачваюць у нейкіх няўцямных злачынствах. Выбралі для гэтага лепшага з лепшых, самага яскравага і самага шчырага з беларускіх ксяндзоў. Мы ўсе добра ведаем пра любімыя метады следчых гэтай установы — трымаць у камеры і не выклікаць на допыты месяцамі. І невядома, калі будзе той суд... А калі і будзе, то ўсё роўна за зачыненымі дзвярыма. Дык чаго чакаць?"*.

Павел Севярынец пагадзіўся са Зміцерам: *"Святара, які будаваў храмы, нёс слова Божае, ізалявалі ад людзей. Сумленныя людзі не могуць заставацца абыякавымі і павінны змагацца за вызваленне спадара Уладзіслава. Мы ўжо перадалі больш за 5 тысяч подпісаў у КДБ і Генеральную пракуратуру. Цяпер новыя подпісы назбіралі. Людзі падпісваюцца. Штодня вернікі замаўляюць імшу за яго, штодня моляцца сотні людзей. Дойдзе справа да ўлётак і пікетаў. Мы здагадваемся, што калі святару не дазволілі дагэтуль перадаць Біблію, то лісты падтрымкі ад людзей яму таксама не перадаюць. Але ён прысвяціў сваё жыццё служэнню Богу і мае моцную веру, таму яго не зламаюць. Але, натуральна, на здароўі гэта не можа не адбіцца"*.

Ганна Шапуцька, адзін з арганізатараў штодзённай малітвы за палітвязняў, выказала свае абурэнні: *"Пазіцыя прадстаўнікоў праваабарончых структур абурае. Мы двойчы праводзілі "круглы стол" па справе арыштаванага Уладзіслава Лазара, двойчы запрашалі праваабаронцаў, і двойчы яны нашы запрашэнні праігнаравалі. Іхнія аргументы "Мы не бачылі матэрыялаў справы, і з гэтым ксяндзом незнаёмыя" падаюцца незразумелымі"*.

Прадстаўнікі грамадскасці звярнуліся да дэлегатаў з'езда каталіцкіх святароў з заклікам выступіць у абарону ксяндза Лазара. Арцыбіскуп дагэтуль публічна за яго не заступіўся, а вось некаторыя ксяндзы ніжэйшага статусу не пабаяліся папсаваць адносіны з беларускай дзяржавай. Так, святар Віцебскай дыяцэзіі **Юрый Барок** маліўся за вызваленне Уладзіслава Лазара ў Ватыкане. Арыштаванага ксяндза ён добра ведае, бо некалі яны вучыліся разам у семінарыі. Падтрымку Уладзіславу Лазару выказаў і ксёндз **Андрэй Кеўліч**. Праўда, кажуць, што гэтым ён наклікаў на сябе гнеў арцыбіскупа. Па крайняй меры, ксяндза Кеўліча раптам адклікалі з вучобы ў Італіі і накіравалі служыць у беларускія Горкі.

Канешне, гэта справа іерархаў Касцёла, але ў асяродку вернікаў гэта выклікала шмат пытанняў да арцыбіскупа: Папа Рымскі Францішак моліцца за вызваленне беларускага ксяндза і перадае яму словы падтрымкі, а беларускі арцыбіскуп маўчыць... Ды неафіцыйна тлумачыць: "Каб не нашкодзіць..."

ТЫМ ЧАСАМ

## *«Напісаў, што ён ні ў чым не вінаваты»*

Учора сёстры ксяндза Лазара Яніна і Ірына перадалі брату ў СІЗА чарговую харчовую перадачу.

Яніна паведаміла "Народнай Волі": *"Мы вельмі ўдзячныя тым людзям, якія дапамагаюць нам аплаціць паслугі адвакатаў і сабраць перадачы. Мама штодня плача і ўсё глядзіць у акно — раптам убачыць Уладзя. Здароўя ў яе зусім няма, жыве на таблетках, амаль не спіць... Мы, як можам, суцяшаем яе, але... Спатканне з братам нам следчы не дазволіў. Біблію і ружанец перадаць яму зноў не дазволілі. Вось такія навіны. Мы вельмі непакоімся за ягонае здароўе, хаця дух яго не зломлены. Напісаў нам у апошнім лісце, каб мы маліліся і што ён ні ў чым не вінаваты"*.

19 лістапада ў 6 вечара ў офісе Партыі БНФ адбудзецца збор сродкаў для сям'і Уладзіслава Лазара. Гэта той выпадак, калі кожны для сябе вырашае, ці варта патраціць паўгадзіны свайго часу і хоць неяк падтрымаць святара. 27 лістапада яму споўніцца 46 гадоў. Сваякі ксяндза Лазара ўсё ж спадзяюцца, што змогуць павіншаваць яго асабіста. Хаця б у пакоі для спатканняў...

**Любоў ЛУНЁВА.**

